№ 5 травень 2012 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

***Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны***

---

**Каб не мова, даўно б мы растаялі,**
**расплыліся б імглой між чужых** *Наталля Арсеньева*



## У НУМАРЫ:

# НАШЫ НАВІНЫ

***

21-22 красавіка Краязнаўчае таварыства ім. К. Тызенгаўза разам з краязнаўчым гуртком Пастаўскай раённай гімназіі "Terra Incognita" падрыхтавала і здзейсніла комплексную краязнаўчую экспедыцыю па лініі фронта І Сусветнай вайны. Яе маршрут пралягаў ад вёскі Чарняты каля азёр Доўжа, Варанец, Чэцверць, Вялікія Споры, Споркі праз вёскі Шабаны, Параскі, Яцавічы, В. Споры, Вараноўшчына, Загачча. У экспедыцыі брала ўдзел трынаццаць вучняў пад кіраўніцтвам настаўніка геаграфіі, краязнаўцы і пісьменніка Ігара Пракаповіча. Падчас вандроўкі юныя даследчыкі вывучалі рэшткі абарончых умацаванняў германскіх і рускіх войск, збіралі матэрыяльныя рэчы, якія маюць гістарычную і культурную каштоўнасць, апісвалі формы рэльефа, аглядалі археалагічныя помнікі, апытвалі жыхароў вёсак. У выніку ўдалося сабраць багаты і каштоўны матэрыял па розных накірунках пошукаў. Найбольш значнымі здабыткамі экспедыцыі варта лічыць наступныя: выяўлена, абследавана і нанесена на карту 39 германскіх жалезабетонных доўгатэрміновых абарончых кропак (ДАКаў), 2 могільнікі германскіх салдат, больш 10 кіламетраў акопаў; агледжана гарадзішча ў вёсцы В. Споры, а таксама на полі каля возера Споркі знойдзены рэшткі старажытнага керамічнага посуду, што дазваляе вылучыць гіпотэзу аб існаванні там селішча, пра якое яшчэ невядома навукоўцам; агледжаны рэшткі былых шляхецкіх сядзіб ("панскіх маёнткаў") у в. В. Споры і вясковыя могілкі каля вёскі Яцавічы; абследаваны глыбокія рачныя даліны і берагі азёр па лініі маршрута.

***

11 траўня сябрамі Таварыства беларускай мовы і краязнаўчага таварыства імя К. Тызенгаўза была праведзена аўтавандроўка ва ўсходнюю частку Пастаўшчыны з мэтай збору краязнаўчых матэрыялаў ды папаўнення фотакаталогу раёна. У час паездкі адбыліся сустрэчы з мясцовымі жыхарамі, зроблены агляд некаторых гістарычных помнікаў. Цікавыя сустрэчы прайшлі ў Варапеўскай і Ваўкоўскай



школах, дзе перад вучнямі і настаўнікамі выступілі І. Пракаповіч і Л. Сяменас.

***

У сярэдзіне траўня ў пастаўскай друкарні пабачылі свет тры новыя краязнаўчыя кнігі, якія былі падрыхтаваны настаўнікам геаграфіі, краязнаўцам і пісьменнікам І. Пракаповічам разам з вучнямі пастаўскай раённай гімназіі і сярэдняй школы № 1. Суаўтарамі кніг "Назвы вуліц горада Паставы", "Памяткі І сусветнай вайны на Пастаўшчыне", "Храналогія гісторыі Пастаўскага раёна" сталі Павел Баразна, Віталій Літвіновіч, Юлія Пракаповіч. У зборы матэрыялаў бралі ўдзел таксама Павел Гукаў, Дар'я Гутар, Кацярына Парангоўская.

***

18 траўня адбылася сустрэча сяброў Пастаўскай раённай арганізацыі ТБМ з намеснікам старшыні райвыканкама Ю. М. Кісялёвым, у час якой абмяркоўваўся стан беларускай мовы на тэрыторыі Пастаўскага раёна, разглядаліся пытанні тапаніміі і магчымасці пашырэння ўжывання роднай мовы ў візуальнай інфармацыі, у час правядзення афіцыйных мерапрыемстваў, на транспарце і ў іншых сферах грамадскай дзейнасці.

***

18 траўня сябрамі Таварыства беларускай мовы і краязнаўчага таварыства імя К. Тызенгаўза была праведзена другая аўтавандроўка ва ўсходнюю частку Пастаўшчыны. На гэты раз шлях пралягаў праз Ляхаўшчыну і Дунілавічы, дзе перад настаўнікамі і вучнямі выступіў І. Пракаповіч, які прэзентаваў новыя кнігі па гісторыі роднага краю, якія напісаны разам з вучнямі: "Назвы вуліц горада Паставы", "Памяткі І сусветнай вайны на Пастаўшчыне", "Храналогія гісторыі Пастаўскага раёна".

**Шыпшына** *на сайце kamunikat.org*

# НОВЫЯ ВЫДАННІ КРАЯЗНАЎЦАЎ ПАСТАЎШЧЫНЫ

На мінулым тыдні ў Паставах выйшлі ў свет тры невялікія краязнаўчыя кніжачкі, у якіх разглядаюцца даволі актуальныя мясцовыя гістарычныя і тапанімічныя праблемы. Аўтарам усіх выданняў з’яўляецца вядомы пісьменнік і краязнаўца, выкладчык Пастаўскай раённай гімназіі Ігар Пракаповіч. Адметныя кнігі тым, што суаўтарамі настаўніка ў іх выступаюць школьнікі. Адна з кніг – “Назвы вуліц горада Паставы” – напісана разам з Віталіем Літвіновічам, вучнем 10 класа СШ № 1 горада Паставы, які ўжо мае вопыт навукова-даследчай працы. На рэспубліканскім конкурсе навуковых работ школьнікаў у 2011 годзе ён атрымаў дыплом III ступені за даследаванне “Геаграфічны аналіз гідраграфічнай сеткі і водападзелаў паўночна-заходняй часткі Беларусі з мэтай вызначэння старадаўніх водных гандлёвых шляхоў і волакаў”. Зараз працуе над тэмай “Гісторыка-геаграфічны і семантычны аналіз гадонімаў і агаронімаў горада Паставы”, матэрыялы якой і склалі аснову выдання.




У кнізе ў гістарычным ракурсе разглядаецца працэс утварэння і змянення назваў вуліц і плошчаў горада Паставы на падставе існуючых планаў і схем, даецца тлумачэнне іх сэнсавага значэння.

Другое выданне мае назву “Храналогія гісторыі Пастаўскага раёна. Каляндар памятных дат 2012-2021”. Суаўтарам яе з’яўляецца вучань 8-га класа Пастаўскай раённай гімназіі Павел Баразна, удзельнік двух раённых навукова-практычных канферэнцый, на якіх прадстаўляў даклады «Гісторыя каталіцкай царквы ў Беларусі» і «Беларускія сацыяльныя сеткі» (дыплом II ступені, 2012 г.); прызёр раённых алімпіяд па англійскай мове (I месца, 2011 г.), біялогіі (3 месца, 2012 г.). У збіранні матэрыялаў для храналогіі бралі ўдзел Павел Гукаў, Дар”я Гутар, Кацярына Парангоўская. Дзяўчаты прадстаўлялі праект на раённай навукова-практычнай канферэнцыі школьнікаў вясной 2012 года.




Гэта кніга - першае найбольш поўнае выданне храналогіі гісторыі Пастаўшчыны, у якім сабраны адметныя даты, звязаныя з падзеямі і асобамі цікавага і адметнага куточка паўночна-заходняй Беларусі. Таксама падаецца каляндар памятных дат на 2012-2021 гады, які для Пастаўскага раёна складзены ўпершыню.

Трэцяя кніга прысвечана падзеям I сусветнай вайны на Пастаўшчыне. Напісана яна I. Пракаповічам разам з дачкой Юліяй, студэнткай факультэта маркетынга, менеджмента і прадпрымальніцтва БНТУ, якая ў школьныя гады актыўна займалася краязнаўствам, збірала і апрацоўвала матэрыялы па тэмах “Валуны Пастаўшчыны”, “Назвы вёсак Пастаўскага раёна”, “I сусветная вайна на Пастаўшчыне”. На міжнароднай навуковай канферэнцыі (Паставы, 2008 г.) выступала з дакладам “Магчымасці выкарыстання помнікаў I сусветнай вайны ў турыстычных мэтах”. У кнізе разглядаюцца памяткі вайны, якія яшчэ захаваліся на былой лініі фронту і якія былі выяўлены вучнямі ў час краязнаўчых экспедыцый. Падаецца шмат ілюстрацый, у тым ліку і тагачасных фотаздымкаў германскіх фатографааў.




Кнігі падрыхтаваны да выдання сябрамі краязнаўчага таварыства імя К. Тызенгаўза і пастаўскай раённай арганізацыяй Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, выдадзены ў Пастаўскай друкарні.

*Наталля Пракаповіч*

на сайце katinikat.org **Шыпшына**

# КРАЯЗНАЎЧАЯ ЭКСПЕДЫЦЫЯ ПА ЛІНІІ ФРОНТУ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

Дваццаць першага красавіка экспедыцыя Пастаўскай раённай гімназіі пад кіраўніцтвам настаўніка геаграфіі Ігара Міхайлавіча Пракаповіча ў колькасці 14 чалавек выправілася ў двухдзённую экспедыцыю. Наш маршрут выглядаў так: Паставы – Чарняты - воз.Чэцверць – Яцавічы – В.Споры – Загачча – Шыркі – Паставы. Нас падтрымала надвор'е: свяціла сонейка, дьмуў лёгкі прыемны ветрык, настрой ва ўсіх быў выдатны!

У 8.45 удзельнікі групы з рукзакамі за плячыма сабраліся на аўтавакзале. На аўтобусе мы даехалі да в.Чарняты. Прайшоўшы кіламетр, убачылі раку. Каб апынуцца на другім беразе нам трэба было перайсці па дрэве, якое ляжала ад аднаго берага да другога. Было вельмі страшна, але мы пераадолелі перашкоду. Ніхто не апынуўся ў халоднай вадзе. Потым ішлі па лясной дарозе, што калісьці злучала Паставы



з Мядзелам, любаваліся кветкамі, якія раслі навокал, слухалі песні птушак. Апынуўшыся на Крыжоўках, аглядзелі помнік, які пастаўлены на месцы бою партызанаў з фашыстамі. Каля воз.Варанец мы вывучалі германскі ўмацаваны раён, абследавалі каля дваццаці жалезабетонных умацаванняў, траншэі і акопы І сусветнай вайны. У вёсках Шабаны і Параскі аглядалі нямецкія ДЗОТы. Было вельмі цікава апынуцца ў старажытных часах і пазнаць усю іх цікавасць.

На працягу усяго пахода мы смяяліся, спявалі, рабілі прывалы. Самы доўгі прывал



зрабілі каля воз.Чэцверць. Спачатку мы падышлі да невялікай, але глыбокай рэчкі. На беразе была лодка, напоўненая вадой. Мы вычарпалі ўсю ваду, а потым па два чалавекі пераплывалі праз рэчку. Было вельмі весела, усе смяяліся. Некаторыя, у тым ліку і я, пераплылі праз рэчку некалькі разоў – так гэта справа спадабалася.



Ужо ля воз.Чэцверць, з якога выцякала гэта рэчка, мы распалілі вогнішча. Добра пад'еўшы, пайшлі далей. Даволі стомленыя мы вечарам прыйшлі ў в.Яцавічы. Усе ішлі і гадалі: "Дзе ж хата, у якой мы будзем адпачываць і заначуем?"

Аказалася, што гэта дача вядомага прадпрымальніка Антона Чалея. Ветлівы гаспадар запрасіў стомленых падарожнікаў ў хату. Адпачыўшы каля печкі, мы зрабілі пір на

**Шыпшына** *на сайце kamunikat.org*



ўвесь мір. Усе злажылі сваю ежу на агульны стол, самі наварылі бульбы. Было вельмі смачна есці пасля вялікай і доўгай дарогі.

Пасля вячэры, калі ўжо пачало цямнець, пайшлі на вуліцу слухаць, як дзядзька Антон іграе на баяне, спяваць і танцаваць. Калі "дыскатэка" закончылася, у цемры мы пайшлі на гарадзішча. Наш візіт туды быў не зусім звычайным. Ігар Міхайлавіч расказаў легенду



пра Белую Паненку, якая быццам бы жыве ў гарадзішчы і адпуджвае турыстаў. Напэўна, гэта карціна выглядала смешна: ноч, цёмна, нейкія людзі ідуць шукаць нейкага прывіда. Але нам было весела. Мы радасна беглі па лужах, пералазілі праз раку (акрамя таго я была у красоўках). З думкай, што мы ідзём глядзець на Паненку нам было вельмі цшкава. Але, як мы не звалі, Паненка не з'явілася…

Поспех павярнуўся да нас тварам толькі тады, калі мы ўжо вярталіся. На полі мы ўбачылі нешта белае, спужаліся і ўцяклі. Калі потым, пасмялеўшы, вярнуліся, ужо нічога не было.

У хаце мы памылся (у дзядзькі Антона душавая кабінка), занялі месцы - хто на падлозе, хто на печы, хто на ложках - і паснулі.

Раніцай мы паелі і пакрочылі ў дарогу. З новымі сіламі пасля добрага начнога адпачынка мы ішлі праз в.Вялікія Споры. Назва вёскі мае цікавае паходжанне, пра якое існуе легенда.




…Было гэта даўно. Вёска даўней належала пану з Варшавы. Аднойчы пан прайграў гэту вёску і тую, якая знаходзілася побач, Малыя Споры, другому пану. Пан вырашыў назваць вёскі Спорамі, таму што вёскі гэтыя былі праспораныя…

У Спорах мы аглядалі рэшткі былой сядзібы паненкі, якая жыла тут да вайны. Дом быў вялікі, двухпавярховы, пабудаваны з бярвення лістоўніцы, якія прывозілі аж з Лынтуп на конях. Пазней у гэтым будынку была размешчана Вялікаспорская базавая школа. На жаль, цяпер сядзібу разабралі.



Потым мы пайшлі далей. Па дарозе мы вывучалі шматлікія германскія ДЗОТы, якія захаваліся ад Першай сусветнай вайны да цяперашняга часу. Мы трохі стаміліся, але, нарэшце, выйшлі да аўтобуснага прыпынку каля в. Загачча, хоць ледзь не спазніліся на аўтобус! З усмешкамі вярталіся дамоў, і ўжо праз некаторы час зноў хацелі пайсці ў паход і марылі, куды пойдзем ў наступны раз, бо падарожжа па нязведаных сцежках - надзвычай цікавы занятак і новыя незабыўныя ўражанні.

*Насця Гутар, вучаніца 7 класа Пастаўскай раённай гімназіі*

на сайце katunikat.org **Шыпшына**

## САМАЯ МОЦНАЯ ПОВЯЗЬ

У свята Дзяды і на Радаўніцу мы асабліва часта нагадваем сваіх памерлых, молімся за іх, успамінаем аб той повязі, якая злучае нас з імі. Не толькі частка жыцця, пражытая разам, не толькі рысы твару або асаблівасці характараў яднаюць нас. Есць яшчэ адна наймацнейшая і найважнейшая повязь, якую нельга ўбачыць, памацаць, як нешта рэальнае, - гэта наша родная беларуская мова. Яна звязвае нас у адно цэлае – тых, хто жыве, і тых, хто адышоў да вечнасці, і хацела б злучыць з тымі, хто будзе пасля нас.




Жыў у адным сяле заможны селянін. Багацце сваё – залатоўкі – ён большай часткай атрымаў у спадчыну ад бацькоў, часткова сам зарабіў, працуючы ад цямна да цямна разам з жонкай, са сваімі сынамі і нявесткамі. Зробленыя грошы селянін складаў у гліняны гарлач і хаваў яго так, што ніхто з сямейнікаў не здагадваўся, дзе ляжаць грошы. Пацешыцца на адзіноце залатымі гузічкамі – і зноў схавае. А калі прыслабеў і адчуў, што смерць стаіць за плячамі, аплёў гарлач дротам, засмаліў і кінуў яго на дно самага глыбокага ў вёсцы калодзежа. Калі ляжаў ужо на Божай пасцелі, прыйшлі да яго сыны на размову і развітанне.

—Татачка, а што ты нам даеш у спадчыну? Як і на якія сродкі загадаеш жыць? – пачалі пытацца ў яго.

—Мы шчыра працавалі, усе заробкі аддавалі табе, ведаем, што грошай зароблена многа.

—Дзе нашы грошы, татачка?

Але адняло раптам мову ў селяніна, толькі невыразна паказваў ён рукой за акно то ў адзін, то ў другі бок.

Пасля яго смерці дзеці кінуліся шукаць багацце. Усю хату пер态трэслі, увесь агарод і сад перакапалі – нідзе няма залатовак. А тут сабралася ўсё: падаткі на зямлю плаціць трэба, дзяцей у школе вучыць трэба, каня маладога ў гаспадарку трэба. Прыйшлося братам прадаць частку зямлі, спадзяваліся, што новы ўраджай паправіць іх справы. Але спадзяванні былі дарэмнымі. Праз некалькі год разбрылася моцная і заможная сям'я па свеце ў пошуках лепшай долі. А гарлач у калодзежы зацягнула тванню, зруб згніў і разваліўся, і хутка стары калодзеж, каб не было якой бяды, засыпалі зямлёй…

Як вы, шаноўныя чытачы, назавяце такога галаву сям'і, які пазбавіў дзяцей і ўнукаў скарбу, зрабіў іх жабракамі? Неразумны – напэўна, самае бяскрыўднае слова.

Але мы, беларусы, ужо шмат год хаваем скарб, які цэлыя стагоддзі ззяў залатым россыпам у нашай краіне, саграваў душы і сэрцы людзей. Неразумнымі можна назваць тых, хто, валодаючы гэтым скарбам, не дзеліцца ім з іншымі. Гэта ў першую чаргу бацькі і дзяды, якія хаваюць яго ад сваіх дзяцей і ўнукаў.

—Неперспектыўная, непатрэбная, куды ты з ёю пойдзеш? – даводзяць яны сваім дзецям.

— З цяжкасцю ўладкавала свайго сына ў рускамоўны клас гімназіі, - хвалілася мая сяброўка ў сярэдзіне 90-х гадоў. І не разумела, што абакрала свайго сына, адарвала яго ад продкаў – спрадвечных беларусаў, з якімі сама была моцна звязана.

—Гавары правільна: не дзякую, а спасіба, - павучае ў дзіцячым садку бацька сваю дачушку, пазбаўляючы сваё дзіця звонкага дзядоўскага слова.

—Навошта мне беларуская мова? –

**Шыпшына** на сайце kamunikat.org

здзіўляецца выпускнік. – Фізіка патрэбна, буду дома рамантаваць электраправодку. Інфарматыка спатрэбіцца. А напісаць я змагу і на рускай мове.

Ну як пасля такога практыцызму гаварыць пра любоў да Радзімы, пра грамадзянскасць, пра духоўныя скарбы?!

Праз родную мову адраджаецца душа чалавека, душа народа і нацыі. Без нацыянальнай мовы не можа быць нацыянальнай годнасці. А без нацыянальнай годнасці – кім мы пачуем сябе ў свеце? Расейцамі? Англічанамі? У свеце нас лічаць беларусамі. І Папа Рымскі Бенедыкт XVI нас, беларусаў, са святам віншуе на беларускай мове.

Некалькі разоў мне даводзілася выступаць на пілігрымках у Польшчы, прадстаўляць сваю парафію. Ксёндз А.Возьняк сказаў, каб я гаварыла па-беларуску, а ён будзе перакладаць. Тады я зразумела, як гэта важна – несці іншым сваю мову, сваю годнасць.

Вельмі мала гадзін на вывучэнне роднай беларускай мовы адводзіцца ў пачатковай школе, няшмат і ў сярэднім звяне. Зусім мала гадзін адведзена на вывучэнне твораў беларускіх аўтараў. Але мы гэта не можам змяніць. Кожны з нас, як беларус, як грамадзянін, можа змяніць сітуацыю ў сваім асяроддзі – у сям'і, у суседстве, навучыць сваіх дзяцей, унукаў роднай мове.

Аднойчы задала дзецям словы для перакладу . Адна дзяўчынка тут жа падняла руку:

—Аліна Лявонаўна, можна скарыстацца "званком сябру"? Мая бабуля цудоўна ведае беларускую мову!

Праз некалькі хвілін пытанне вырашана, бабуля дапамагла.

Навучыце сваіх унукаў і дзяцей цудоўным беларускім народным песням. Чытайце ім вершы беларускіх паэтаў. Яны таксама паглыбяць веданне мовы , узмоцняць любоў да Беларусі.

Пасля аднаго майго артыкула ў абарону роднай мовы патэлефанавала знаёмая:

—Я зразумела, што абядняю душы сваіх дзяцей, не чытаючы ім казкі па-беларуску. Сёння ж пайду ў бібліятэку!

"Каб любіць Беларусь нашу мілую…" Яе трэба проста любіць. Любіць яе гісторыю, культуру, людзей. І абавязкова – цудоўную, спеўную, звонкую родную мову.

*Аліна Латыш*




Пачатак лета ў Паставах ужо немагчыма ўявіць без фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік". Сёлета ён завітае да нас 8—10 чэрвеня ў 20-ты раз, у тым ліку ў 15-ты — у статусе міжнароднага.

Падрыхтоўка да гэтай яркай культурнай дзеі ў жыцці не толькі горада і раёна, але і ўсёй рэспублікі пачалася некалькі тыдняў назад. На сённяшні дзень зацверджаны аргкамітэт фестывалю, разасланы запрашэнні ў многія краіны. І некаторыя з іх, у прыватнасці Польшча, Расія, Літва, Латвія, Турцыя і Францыя, ужо пацвердзілі свой удзел у ім.

Зараз ідзе работа над фестывальнай праграмай, якая абяцае быць цікавай і разнастайнай, парадаваць пастаўчан і гасцей горада новымі незабыўнымі сустрэчамі і мерапрыемствамі. Як расказала начальнік аддзела культуры райвыканкама А. Ф. Сакалова, напярэдадні свята народнай музыкі на базе ТАА "Пасткамень" упершыню пройдзе пленэр каменячосаў. Створаныя яго ўдзельнікамі каменныя скульптуры потым упрыгожаць наш горад. Непасрэдна ў рамках фестывалю плануецца правядзенне мерапрыемстваў, прысвечаных Году кнігі і 130-годдзю з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Я. Купалы і Я. Коласа. Будуць і іншыя сюрпрызы: ідэй і задум у арганізатараў шмат. Якія менавіта — пакуль гаварыць не станем, няхай гэта застанецца ў сакрэце. Усё ўбачым на фестывалі.

*Алена Шапавалава*

*на сайце kamunikat.org* **Шыпшына**

***ЛЕГЕНДЫ І ПАДАННІ НАШАГА КРАЮ***

## БЯЗДОННАЯ СТУДНЯ

Каля пабудаванага сядзібнага дома пані Божэчковай у Спорах трэба было мецьстудню, бо да возера Асцюцьева па ваду хадзіць было далекавата, а суседні ручай цёк у глыбокай лагчыне з вельмі стромкімі схіламі. І таму пачалі капаць студню. Сяляне-мужыкі працавалі шчыра, стараліся, бо пані паабяцала добра заплаціць. Але дом стаяў на ўзгорку, да ваданосных пластоў было глыбока. Капалі мо з тыдзень. Цымбравіна за цымбравінай уваходзілі ў зямлю, а наверх падымаўся сухі пясочак і каменьчыкі. Усе пачалі нэрвавацца ды злавацца: столькі работы, а выніку няма.



Калі 20-я цымбравіна схавалася ў зямлі, мужыкі задумалі пайсці на хітрасць. Ноччу на кані яны прывезлі некалькі бочак вады і вылілі яе ў студню, а на наступны дзень пайшлі да пані Бажэчковай і сказалі ёй, што пайшла вада. Гаспадыня захацела ўпэўніцца. У яе на вачах апусцілі ў студню вядро і выцягнулі яго напоўненае вадой. Узрадаваўшыся, пані шчодра заплаціла работнікам і тыя пайшлі па сваіх хатах у спадзяванні, што ў хуткім часе іх зноў запросяць паглыбляць студню. Аднак іх ніхто так і не паклікаў. Як на дзіва, у той студні, колькі б з яе вады ні бралі, была яна там заўсёды. І добрая, смачная, халодная...



*Сядзіба пані Бажэчковай у Спорах дзесяць гадоў назад і цяпер*

*Ігар Пракаповіч*

*Нумар падрыхтаваны да друку 24.05.2012 сябрамі краязнаўчага таварыства імя К. Тызенгаўза і пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны.*

***Шыпшына*** на сайце kamunikat.org


***Шыпшына***

*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч

Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52. Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч

*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*

*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*

*Наклад 100 асобнікаў*